# Тыднёвік Магілёўскі




№ 21 (85) 2 - 8 чэрвеня 2000 г. Кошт 50 руб.


## Магчыма, што да выбараў вольнай прэсы ня будзе

**ПАПЯРЭДЖАННЕ**
**аб парушэнні Закона Рэспублікі Беларусь**
**«Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі»**

«25» мая 2000 г. № 32

*Рэдакцыі газеты «Тыднёвік Магілёўскі» -*
*на падставе артыкула 16 Закона*

*Сутнасць парушэння (кароткі змест):*

У выхадных даных газеты «Тыднёвік Магілёўскі» не ўказваюцца дата і час падпісання нумароў у друк, адрас друкарні, што з'яўляецца парушэннем артыкула 26 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі»

*На мінулым тыдні рэдакцыя газэты "Наша Ніва" у дадатак да красавіцкага папярэджаньня атрымала ад Дзяржкамдруку яшчэ адно па 5-му артыкулу Закону аб друку. Два папярэджаньні атрымала днямі таксама "Народная воля". Двойчы сёлета адзначылася папярэджаньнямі гарадзенская недзяржаўная газэта "Пагоня".*

*Прэтэнзіі да гэтых выданьняў такія, што могуць распачацца судовыя працэдуры па іх закрыцьці. Менавіта такое права дае чыноўнікам той самы "знакаміты" 5-ы артыкул Закону. Артыкул, адмены якога (альбо хаця б удакладненьня) патрабавалі ад нашай Палаты беларускія, эўрапейскія і міжнародныя прававыя і журналісцкія арганізацыі.*

*Гэты артыкул сфармуляваны такім чынам, што кожны можа прачытаць яго як захоча, прыладзіць пры патрэбе ці не да любога выступленьня газэты, якое не спадабаецца ўладзе. Агульныя нормы накшталт "недапушчэньня распальваньня нацыянальнай варожасьці... заклікаў да зьмены канстытуцыйнага ладу... недапушчальнасьці распаўсюджваньня зьвесткаў, якія ганьбяць кіраўнікоў дзяржаўных органаў" і да таго падобнае можна "прымяніць" да любых крытычных альбо разважлівых публікацыяў на так званыя "вострыя" тэмы. Зусім ня важна для тых, хто распрацоўваў і прымаў закон, што такія роздумы ёсьць (іх ня можа ня быць!) у любым грамадзтве, што менавіта праз сродкі масавае інфармацыі яны даводзяцца, калі ўжо на тое пайшло, да ўлады, а таксама – да самога грамадзтва, палітычных і сацыяльных інстытуцыяў краіны. За тое дзякаваць трэба журналістам і выданьням!*

*Акрамя таго, з 5-га артыкулу не вынікае, што ж менавіта зьўляецца "заклікам, распальваньнем, ганьбаваньнем". Узгадка ў друку пра існаваньне праблемаў нацыянальнага разьвіцьця – "распальваньне"? Крытыка дрэннай працы органаў улады – "ганьбаваньне"?..*

*Гонару быць папярэджанымі па таму ж артыкулу "Тыднёвік Магілёўскі" пакуль пазьбег, аднак афіцыйную паперу ад Дзяржкамдруку атрымалі днямі й мы: "за парушэньне парадку абвяшчэньня выхадных даных" (арт.26). Парушэньне, якога, дарэчы, не адмаўляем, тычыцца таго, што мы не пазначалі "дату і час падпісаньня нумароў у друк, адрас друкарні" (цяпер будзем бездакорна гэта рабіць).*

*Такое патрабаваньне сапраўды ёсьць у законе, але мы, на сваю бяду, лічылі для ўсіх зразумелым, што газэта, якая зьяўляецца на сьвет у пятніцу, натуральна падпісваецца ў друк у чацьвер, а час ейнага падпісаньня ў нашай практыцы не адрозьніваецца ў розныя тыдні больш, чым на паўгадзіны. Можа й сапраўды некаму вельмі важна ведаць гэтыя самыя хвіліны. Таму выбачаемся. Тым больш, што тут усё ясна, недвухсэнсоўна і дакладна вызначана: паведамляць тое і тое, падаваць зьвесткі такія й такія. Ня тое, як у "невабдымным" Пятым артыкуле.*

*За "наш" артыкул самае большае – рэдактара можна "прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці"... Праўда, з гэтай "дэталлю" у змаганьні з газэтай можна ісьці далей – на падставе "наяўнасьці парушэньня". Дадайце сюды леташняе пракурорскае папярэджаньне "за альтэрнатыўн прэзыдэнцкія выбары", два суды супраць газэты па артыкулу "аб абароне гонару і годнасьці" (адзін, дарэчы, прайграны) – і "маральны облік" газэты ясны, як на далоні!..*

*Як бачым, закон не такі "просты", дакладней, не такія простыя тыя, хто яго распрацоўваў і прымаў – дэпутаты Палаты. Не для грамадзтва і тым больш не для газэтаў, вядома, прымалі яны гэты закон, а найперш для ўлады, для сябе. Альбо, як трапна выказваюцца ў падобных выпадках нашыя расейскія дэмакратычныя калегі, "пад сябе". Таму і адхілілі дэпутаты падчас падрыхтоўкі закону аўтарытэтныя экспэртныя заўвагі, міжнародныя парады і пратэсты.*

*Такім чынам, на дадзены момант існуюць фармальныя падставы (паводле закону – пасьля 2-х папярэджаньняў) для пачатку судовых працэсаў адразу супраць 3-х папулярных выданьняў і "рэзэрв" на гэты конт супраць некаторых іншых (у тым ліку – "ТМ").*

*Навошта?.. Увосень плянуюцца выбары, шаноўнае спадарства! Іх трэба будзе асьвятляць "правільна", а ня так, як каму захочацца.*

***Рэдакцыя "ТМ"***

## На сувязі – Жэнева...

Дзякуючы намаганьням Крычаўскай праваабарончай групы, што дзейнічае пры грамадзкім аб'яднаньні "Кантакт-цэнтар", і мясцоваму прадстаўніцтву БХК, Камісія па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў у Жэневе прыняла да разгляду справу жыхара Крычава Лявона Сьвеціка.

Больш за год таму спадар Сьвецік, як прадстаўнік БХК, падпісаўся пад зваротам прадстаўнікоў недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў (НДА) Беларусі да жыхароў краіны. Зварот быў надрукаваны ў газэце "Народная воля". У ім прадстаўнікі НДА выказалі сваё негатыўнае стаўленьне да працэдуры маючых адбыцца выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Пасьля гэтага вялікая колькасьць людзей, якія падпісалі гэты дакумэнт, была прыцягнутая да адміністрацыйнага пакараньня. Прычым былі аштрафаваныя толькі тыя, хто працуе на дзяржаўных прадпрыемствах, у тым ліку – сп.Сьвецік.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



Не пагадзіўшыся з прысудам, пацярпеўшы абскардзіў яго ўва ўсіх вышэйстаячых інстанцыях судовае сыстэмы Беларусі, у тым ліку і ў Вярхоўным судзе. Не знайшоўшы праўды на Радзіме, ён зьвярнуўся ў Жэнеўскую Камісію па правах чалавека. І вось адтуль, ад кіраўніка аддзела дапаможнага абслугоўваньня сп.Хаміда Гахама прыйшоў адказ – справа прынятая да разгляду. У Беларусь накіраваны запыт на атрыманьне ўсёй магчымай інфармацыі й на працягу 6 месяцаў гэтая справа будзе вырашаная.

***Андрэй КУЗЬМІН***

## Няўтульнае лета 2000 году

З-за адсутнасьці сродкаў гэтым летам, хутчэй за ўсё, будуць зачыненыя дзіцячыя садкі Магілёва, якія належаць прамысловым прадпрыемствам горада. Паводле статыстычных дадзеных, акупальнасьць народнай гаспадаркі вобласьці зь цяжкасьцю перавысіла ў гэтым годзе 2 адсоткі, а амаль кожнае прадпрыемства панесла страты. Гэтыя вынікі "стабілізацыі" найперш адбіваюцца на сацыяльных праграмах, да якіх належаць, у прыватнасьці, дзеці, школьнікі, студэнцкая моладзь.

Не вядома дзе і як правядуць летнія вакацыі тысячы школьнікаў і студэнтаў. Самая сьціплая пуцёўка на адну зьмену ў "піянэрскі лягер" побач з Магілёвам каштуе блізу 100 даляраў. Зьехаць падалей могуць дазволіць сабе толькі дзеці "новых беларусаў" і начальства. "Лягеры", арганізаваныя пры школьных дварах, выглядаюць вартай жалю і спачуваньня імітацыяй клопатаў дзяржавы "пра шчасьлівае дзяцінства".



Фота IREX



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Да нас прыязджала дэлегацыя кітайскага парлямэнту. Калі, канешне, можна лічыць парлямэнтам Усекітайскі сход народных прадстаўнікоў. У іх ЦК КПК прызначае дэпутатаў, у нас – прэзыдэнт. Відаць, было пра што пагаварыць "народным выбраньнікам", бо невыпадкова ў паезды па вобласьці кітайскую дэлегацыю суправаджаў старшыня абласнога Савета Станіслаў Гур'янаў. Іншага эфэкту ад візыту чакаць цяжка: дзе той Кітай, дзе – мы. Да таго ж эканоміка нашая нават для іх – учорашні дзень. Застаецца адзіная сфэра супрацоўніцтва – у ідэалягічнай сфэры. Нездарма кіраўнік кітайскай дэлегацыі нахвальваў нашую ўладу "за прынцыповасьць і адстойваньне сваіх пазыцыяў, нягледзячы ні на што".

Працягваецца пажарная трывога ў лясах і на тарфяніках. З адкрытых тэрыторыяў агонь перабег пад зямлю, што самае небясьпечнае, бо там яго кантраляваць складана. "Надзвычайнае" начальства сьцьвярджае, што робіцца ўсё неабходнае, каб перамагчы стыхію. Аднак верыцца ў гэта мала. Калі нават на перасеў не хапае паліва і іншых рэсурсаў, адкуль знойдзецца для пажарных. Хаця галоўнае, што пажарныя сапраўды праяўляюць прафэсыяналізм і мужнасьць у гэтыя дні. Дзякуй ім за гэта! А да ўсіх астатніх толькі адна просьба: будзьце на прыродзе пільнымі і асьцярожнымі, не станавіцеся самі (у дадатак да сьпякоты) прычынамі агню.

Для гарадзкіх аматараў музыкі быў прыемны тыдзень. Фэстываль "Магілёўская музычная вясна", наладжаны абласной філярмоніяй, дазволіў паслухаць клясыку і эстраду. Клясыка, як заўсёды, грэла сэрца і душу. Эстрада (папсовая, бо, здаецца, іншай у нас і Расеі сёньня няма), як заўсёды, спусташала. Хаця, магчыма, што гэта на чый густ, таму – маўчу, а тое прыхільнікі "маскоўскага бамбука" яшчэ пакалоцяць.

Ня толькі не пераадолена, а нават пагоршылася сытуацыя з выплатай заробкаў. Адзін мільярд семсот мільёнаў – столькі запазычыліся ў вобласьці розныя арганізацыі сваім працаўнікам. Асабліва цяжка, па традыцыі, у сельскагаспадарчай сфэры. На яе прыпадае больш палові гэтай сумы. А ў 70 гаспадарках людзі ня бачылі грошай са студзеня.

Колькі ўжо прыходзілася выказваць сваё захапленьне ад здольнасьці нашага чынавенства спалучаць несумяшчальнае, не заўважаць відавочнага і верыць у недасягальнае. І вось зноўку. На пасяджэньні асацыяцыі прамысловцаў намесьнік старшыні аблвыканкаму Дзьмітры Сівіцкі паведаміў пра "несумнеўныя дасягненьні", г.зн. пра рост аб'ёмаў вытворчасьці. Ён у нас працягваецца і склаў амаль 9 %. Што і каму дае гэтая лічба, калі побач страты ў прамысловасьці павялічыліся ў 4 разы? Калі прамысловая запазычанасьць за электраэнэргію перавысіла мільярд рублёў? Калі цэлымі калектывамі людзей адпраўляюць у так званы адпачынак "за свой кошт"?.. Пра гэта гаворыцца нібы пра нязначныя часовыя цяжкасьці "на шляху перамогаў", якімі ўпэўнена вядзе краіну Лукашэнка. Сапраўды, упэўненасьці і нават самаўпэўнанасьці яму не займаць. Адсюль і жыцьцё маем такое.

Заснаваны год таму сумесны гандлёвы дом "Масква-Магілёў" усё яшчэ застаецца на паперы. Забыліся прыгожыя словы пры абмеркаваньні ідэі і падпісаньні дакумэнтаў. Як дайшло да справы, ніхто з "высокіх бакоў" ня выканаў сваіх абяцаньняў і абавязкаў. Нават статутны фонд пакуль ня створаны. Магчыма, прычына правалу "праекта веку" не ў забылівасьці ці недысцыплінаванасьці чынавенства, а ў тым, што такі дом нікому з бакоў не патрэбны. Прыкіньце самі: што можа наш абласны цэнтар прапанаваць Маскве і што можа прапанаваць яна Магілёву пры нашых заробках?! Ідэя "інтэграцыі на практычным узроўні" была і засталася выключна прапагандысцкай. Таму слаба верыцца ў тое, што лепш пойдуць справы ў новай задумы гарвыканкаму: стварыць тульска-магілёўскі гандлёвы дом. Такую прапанову прывёз днямі з гэтага расейскага гораду старшыня гарвыканкаму Міхаіл Красноў. Хаця хто ведае, можа па дзяшоўцы набудзем двухстволкі. А што яшчэ ёсьць карыснага ў былой савецкай "сталіцы аружэйнікаў" – не ўспамінаецца. Ну, самавары, канешне, але мода на стыль "а-ля рюс", здаецца, прайшла. Мода на ўзьнёслыя гаворкі пра "непарушнае адзінства", на жаль, працягваецца.

Паводле афіцыйнай статыстыцы, амаль 60% у тавараазвароце вобласьці складае бартэр. У нас зьнешнеэканамічныя партнэры ёсьць у 70 краінах сьвету. Але бальшыня іх – у Расеі. Па-сяброўству і разуменьню нашых цяжкасьцяў суседзі пагаджаюцца гандляваць з намі не за грошы, а за тавары. Гэтая "паслуга" абарочваецца вялікімі стратамі для эканамічнай ідзалёгіі і практычнай эканоміцы. Грошы ня маюць сапраўднай цаны, за валоданьне імі ніхто не змагаецца, яны не выконваюць сваёй ролі "эканамічнай крыві жыцьця". Ад бартэрнай эканомікі адзін крок да эканомікі фэадальнай. А можа мы і зрабілі гэты крок ужо, толькі не прызнаемся.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн*

---

### ВЫБАРЧЫЯ ДАЖЫНКІ-99

## Як на генэральнай рэпэтыцыі

*У Крычаўскім раёне днямі адбыліся давыбары дэпутатаў па Сожаўскаму ўчастку №5, дзе грамадзяне мусілі падаць свае галасы за дадатковых дэпутатаў у мясцовых выбарчых акругах №№22, 27, 28. Грамадзкае аб'яднаньне "Кантакт-цэнтар" арганізавала назіраньне за ходам выбараў, што поўнасьцю адпавядае заканадаўству. Вось якую даведку склалі назіральнікі па выніках сваіх уражаньняў і ўсяго, што пабачылі. (Гэты матэрыял, на погляд рэдакцыі, тым больш актуальны, што восеньню ўлада мяркуе правесьці выбары дэпутатаў у вышэйшы заканадаўчы орган краіны. Па такім жа сцэнары?).*

**Даведка аб парушэньнях Выбарчага Кодэксу Рэспублікі Беларусі**

1. Кабіны для патаемнага галасаваньня не забясьпечвалі гэтага, бо тыльны бок кабінаў быў адчыненым, што ёсьць парушэньнем арт.51.

2. Многім выбаршчыкам бюлетэні выдаваліся выбарчымі камісіямі бяз абавязковага (арт.52) прадстаўленьня дакумэнтаў аб асобе. Бюлетэні для галасаваньня не былі падрыхтаванымі напярэдадні адпаведна колькасьці выбаршчыкаў згодна сьпісаў і сябры камісіі падпісвалі бюлетэні на працягу ўсяго часу галасаваньня.

3. Галасаваньне па месцы жыхарства праводзілася ня толькі па сьпісу, які быў папярэдне зацьверджаны старшынём камісіі на падставе аформленых пісьмовых альбо вусных просьбаў выбаршчыкаў, а таксама па ініцыятыве шарагавых сябраў камісіі, што недапушчальна (арт.54). Сябры камісіі з пераноснай урнай для галасаваньня непасрэдна абыходзілі жылыя дамы, заходзячы "на ўдачу" ва ўсе кватэры. Пры гэтым яны мелі пры сабе незафіксаваную колькасьць бюлетэняў, а ня тую, якая павінна была адпавядаць колькасьці пазначаных у спэцыяльным сьпісе людзей. Сябры камісіі пад час "хатняга" галасаваньня мелі пры сабе чыстыя блянкі для ўліку прагаласаваўшых, а не падрыхтаваны і зацьверджаны сьпіс выбаршчыкаў, якія выявілі абгрунтаванае жаданьне справіць абавязак па месцы жыхарства. Быў выпадак наведаньня выбаршчыка з урнай для галасаваньня асобным сябрам камісіі, калі па закону патрабуецца, каб іх было як меней двое (усё той жа арт.54). У іншым выпадку пры наведаньні кватэры выбаршчыка сябрам камісіі, прадстаўніку групы грамадзкіх назіральнікаў было адмоўлена ў прысутнасьці пры галасаваньні. Усе выбаршчыкі, якія галасавалі ў сваіх кватэрах ці дамах, рабілі гэта па-сутнасьці адкрыта, запаўняючы свае бюлетэні непасрэдна пад наглядам сябраў камісіі (парушэньне арт.52).

4. Пасьля заканчэньня працэдуры галасаваньня нявыкарыстаныя бюлетэні не былі "пагашаны" і раскладзеныя па пакетах з адпаведнымі зьвесткамі аб іх зьмесьце, не былі "апячатаны" і зацьверджаныя подпісам старшыні камісіі і сакратара ў прысутнасьці сябраў камісіі (як таго патрабуе арт.55). "Гашэньне" нявыкарыстаных бюлетэняў праводзілася адначасова з падлікам галасоў, а канчатковае вызначэньне колькасьці нявыкарыстаных бюлетэняў рабілася пасьля падліку галасоў за тым жа сталом, дзе знаходзіліся бюлетэні, якія былі выбаршчыкамі скарыстаныя падчас галасаваньня (арт.55). Да гэтых бюлетэняў былі механічна дададзеныя іншыя – зь перасоўнай урны, хаця па закону яны павінны падлічвацца і наогул дакумэнтальна афармляцца асобна.

5. Назіральнікі, што ўвесь дзень знаходзіліся на ўчастку, візуальна налічылі 377 выбаршчыкаў – пры тым, што ў сьпіс для галасаваньня было ўключана 2462 чалавекі.

6. Па ўсіх акругах, дзе выбіралася чацьвёра дэпутатаў, мэтадам вылучэньня праз працоўныя калектывы (іншыя спосабы, дапушчальныя законам, не былі скарыстаныя), было прапанавана і зарэгістравана па аднаму кандыдату ў дэпутаты: дырэктар мясакамбіната, начальнік рамонтна-дарожнага ўпраўленьня, 2-гі сакратар райкаму БПСМ, начальнік гарадзкой камунальнай гаспадаркі.

7. Старшыні выбарчых камісіяў забаранялі назіральнікам рабіць на ўчастках фотаздымкі. На адным зь іх афіцыйны прадстаўнік выбарчай камісіі абвінаваціў назіральнікаў у тым, што яны за сваю працу атрымваюць "амэрыканскія даляры".

***Група грамадзкіх назіральнікаў на выбарах у Крычаве***

---

## Пад выглядам "традыцыі"

Лета – час студэнцкіх сэсіяў. Ці ёсьць нешта новае ў гэтай справе? – запыталіся мы ў аднаго з студэнтаў Магілёўскага тэхналягічнага інстытута. І пачулі...

– Ёсьць. Выкладчыкі ўжо адкрыта называюць суму, якую ім трэба выплаціць, каб здаць "залік".

– І колькі разоў такое было ў вашай групе?

– У нашай пакуль адзін.

– Колькі ж хацеў "зарабіць" ваш выкладчык?

– З кожнага студэнта па тры тысячы. У групе нас 23 чалавекі.

– І вы ўсе аддалі?

– Аддалі, бо прадмет для нас другасны, ніхто яго не вучыў. А "правальвацца" нельга.

– Але ж такога хапугу лёгка злавіць за руку. Заява ў міліцыю, пазначаныя банкноты, суд...

– Ну звольняць аднаго, хаця й наўрад ці. А дзе гарантыя, што другі будзе не такі й ня стане помсьціць? Нам жа трэба ВНУ закончыць, дыплёмы атрымаць.

– Дык вы, што, так і даруеце яму?

– Не, не даруем. Але спачатку атрымаем дыплёмы. Потым і разьбярэмся. Самі, безь міліцыі.

– Гэта як? Прычакаеце ў цёмным месцы?..

Хлопец толькі загадкава ўсьміхаецца...

А й праўда, як быць у падобных выпадках? Даўно прыжыліся грашовыя паборы ў школах. Па нашых зьвестках гэта дакаціласа ўжо да "выпускных групаў" дзіцячых садкоў.

Як быць, сябры?..

***Міхась БУЛАВАЦКІ***



Фота Д.Новікава

---

## Цэлы год цягнецца сьледства

**"па факту гібелі людзей 30 траўня 1999 года ў падземным пераходзе станцыі мэтро "Няміга" у Менску". У той трагічны вечар загінулі 53 чалавекі, 164 атрымалі цялесныя пашкоджаньні. Цяпер выяўлены яшчэ 80 чалавек, якія зьвярталіся па дапамогу ў якасьці пацярпелых на станцыі "Няміга" у той вечар.**

**Калі й чым сьледства скончыцца – невядома. Тым часам у Менску Цэнтрам абароны правоў чалавека "Вясна" супольна з Цэнтрам сацыяльнае дапамогі "Няміга-99" пры ўдзеле Цэнтру "Прававая дапамога насельніцтву" да першых угодкаў менскай трагедыі выдадзена кніга, у якой сабраныя сьведчаньні людзей пра той жудасны вечар...**



# Куды прасунуліся зь леташняй восені

*Некалькі месяцаў ідуць перамовы (ці, як называе іх улада, "грамадзка-палітычны дыялёг") паміж тымі, хто прэзэнтуе прэзыдэнцкі бок і тымі, хто зьяўляюцца ягонымі апанэнтамі. Дыялёг ініцыявала Кансультатыўна-назіральная група АБСЭ як сродак выйсьця з палітычнага тупіку, у якім апынулася ў выніку дзеяньняў улады нашая краіна. Зь вялікай цяжкасьцю ўдалося нібыта пасадзіць за стол перамоваў абодва бакі (прэзыдэнцкі – было значна цяжэй). Аднак перамовы па-сутнасьці так і не пачыналіся яшчэ, бо абсалютна відавочна для ўсіх, што Лукашэнку яны патрэбныя хіба толькі для таго, каб дурыць Захад (хаця, здаецца, і гэта яму ня надта неабходна). Тым ня менш нешта ў Менску адбываецца, пра нешта ж дакладаюць у эўрапейскія сталіцы назіральнікі АБСЭ... А сапраўды, што адбываецца на перамовах апошнімі днямі? Для чытачоў, хто гэтым цікавіцца, прапануем узяты з радыё "Свабода" камэнтар журналіста **Уладзімера Глода**.*

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная партыя, якой кіруе Станіслаў Шушкевіч, на апошнім паседжаньні Кансультацыйнае рады апазыцыйных палітычных партыяў выказала сваю незадаволенасьць працэсам кансультацыяў паміж уладамі ды апазыцыяй. А Сяргей Папкоў ад імя Кансэрватыўна-Хрысьціянскае партыі БНФ паведаміў, што партыя ня будзе больш удзельнічаць у галасаваньні ў пытаньнях, якія тычацца перамоўнага працэсу.

Штуршком да рэзкіх выказваньняў стала абмеркаваньне справаздачы Юрыя Хадыкі, які ад імя кіраўнікоў групаў экспэртаў, што існуюць пры Кансультацыйнай радзе, дакладаў пра вынікі першага раўнду кансультацыяў з экспэртамі ўрадавага боку. Спадар Хадыка лічыць, што, хаця з боку ўлады і наглядаецца жаданьне зацягнуць працэс, але адпаведныя сустрэчы трэба працягваць.

Ня ўсе пагадзіліся з такім падыходам. Спачатку прадстаўнік КХП БНФ Сяргей Папкоў заявіў: нельга лічыць, што кансультацыі экспэртаў фактычна не даюць аніякага выніку. Яны прыносяць адмоўны вынік, паколькі аніякіх зрухаў з боку афіцыйных уладаў няма й ня будзе. А таму Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ спыняе сваю працу ў псэўдаперамоўным працэсе. Партыя, якую ўзначальвае Зянон Пазьняк, больш ня будзе ані абмяркоўваць пытаньні, што непасрэдна тычацца перамоўнага працэсу з урадавым бокам, ані браць удзел у галасаваньні ў гэтых пытаньнях.

Менш радыкальную, але ўсё ж асобную пазыцыю заняла Беларуская Сацыял-Дэмакратычная партыя. Ейны прадстаўнік – Віктар Алампіеў выказаў незадаволенасьць ходам кансультацыяў і прапанаваў не ўзнаўляць іх, а зрабіць перапынак да 1 чэрвеня. Калі да гэтага часу ўлады не дадуць станоўчага адказу на патрабаваньні палітычнай апазыцыі пра доступ да дзяржаўных мас-мэдыяў, пра спыненьне Лукашэнкам дзеяньняў, якія скіраваныя на страту Беларусьсю дзяржаўнага сувэрэнітэту ды інш., дык Кансультацыйнай радзе патрэбна будзе спыніць усялякія кансультацыі з апанэнтамі.

Гэтыя прыклады яскрава паказваюць – у Кансультацыйнай радзе высьпявае незадаволенасьць тым, што адбываецца. Падрыхтоўка да перамоваў урады і апазыцыі цягнецца зь леташняй восені, а станоўчага выніку як ні было, гэтак і няма, паколькі перамовы фактычна яшчэ й не пачыналіся. Мабыць, надыйшоў час шукаць нешта новае, нейкія новыя падыходы, каб зрушыць гэты працэс.

Аднак прадстаўнікі бальшыні партыяў выказаліся за працяг кансультацыяў. Адпаведная прапанова была вынесеная на галасаваньне. Як вядома, рашэньні Кансультацыйнае рады прымаюцца паводле формулы "кансэнсус мінус адзін". Уролі, так бы мовіць, "мінусу" апынулася Сацыял-Дэмакратычная партыя. Калі б яе падтрымала Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ, неабходнай бальшыні не было б. Аднак, гэтая партыя крыху раней паведаміла пра свой няўдзел у галасаваньні.

Напрыканцы паседжаньня ягоныя ўдзельнікі зацьвердзілі склад чатырох экспэртавых групаў, якія магчыма будуць праводзіць кансультацыі са сваімі апанэнтамі з урадавага боку. Паўнамоцтвы й склад дзьвюх групаў – у пытаньнях доступу палітычнай апазыцыі да дзяржаўных СМІ і ў пытаньнях усталяваньня клімату даверу – былі пацьверджаныя. А групу ў пытаньнях заканадаўства падзялілі на дзьве. Першую, якая будзе абмяркоўваць пытаньні Выбарчага кодэксу, як і раней, узначальвае Міхал Пліска, другую, якая займецца функцыямі й паўнамоцтвамі парлямэнту, папрасілі ўзначаліць Мечыслава Грыба, які зараз знаходзіцца за мяжою.



Фота IREX

**"ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ ДЫЯЛЁГ": ВЕСТКІ З-ЗА ШЫРМЫ**

# Што хацеў сказаць Шушкевіч у "Панараме"

*У мінулую суботу гледачы праграмы дзяржаўнае тэлевізіі "Панарама" былі сьведкамі надзвычайнай у сёньняшніх беларускіх умовах зьявы – у найпростым эфіры нечакана зьявіўся былы старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч. Ягоны выступ, аднак, доўжыўся ўсяго паўхвіліны. Як толькі вядучаму Юрыю Казіятку не спадабаліся ацэнкі суразмоўцы, мікрафон быў імгненна выключаны, Шушкевіча на паўслове перапынілі, і ён зьнік з кадру, а Казіятка пачаў даваць зьневажальны для асобы спадара Шушкевіча камэнтар. Вось што пра гэта распавёў сам Станіслаў Шушкевіч у інтэрвію радыё "Свабода".*

**С.Ш.** – Тыя абяцаньні, што нам дадуць прамы эфір, доступ да сродкаў масавай інфармацыі, трэба неяк пацьвердзіць. Увесь час, напрыклад, амбасадар Вік – прадстаўнік АБСЭ – гаворыць, што сытуацыя паляпшаецца. Як у пацьверджаньне гэтага мне тэлефануе вось гэты самы Казіятка – я ўпершыню яго чуў. І да гэтага ніколі ня бачыў, бо не ўключаю гэтую праграму, ведаючы, што ў яго там напарнік ці начальнік такую бязглуздзіцу нясе, што сорам слухаць.

Тым ня менш, ён зьвярнуўся да мяне і кажа, што яны гатовыя запісаць камэнтар аб тым, як я стаўлюся да дыялёгу. Я сказаў, што ні па якому пытаньню для "Панарамы" ня буду нічога запісваць, таму што яны ўсё гэта зьнявечаць, і я вельмі не хачу выглядаць дурнем. Тады ён кажа, што калі дойдзе да прамога эфіру, дык калі ласка, але ня больш за дзьве хвіліны. Я кажу: "Дзякую, мне дастаткова".

Я зразумеў так, што адмовіцца ня маю права. Вы ўяўляеце, што будзе, калі яны запішуць тэлефонную размову, у якой я адмовіўся ад прамога эфіру? Я ведаў, што будуць нейкія правакацыі, але ня ведаў якія. Тым ня менш, я пайшоў да яго. Размова была даволі цікавай аб маёй паездцы ў Злучаныя Штаты, аб тым, што я там рабіў. Я гаварыў, што Злучаныя Штаты добра ставяцца да станоўчых зьменаў у нас, яны адстойваюць стандарты дэмакратыі, правоў чалавека, і мне было цікава там працаваць. Я сказаў, у якіх унівэрсытэтах я чытаў лекцыі, дзе я выступаў.

Здавалася, што ён сапраўды цікавіцца. Але гэта было зроблена, каб мяне заспакоіць і зрабіць нейкую нечаканасьць. Шчыра кажучы, я ня вельмі зьвяртаў увагу на пытаньні. Што мяне абразіла: перад гэтым перадача ішла пра расейскія рэгіёны й беларускія вобласьці разам з гэтымі расейскімі рэгіёнамі, і мой родны Менск, як нейкі прыдатак да гэтай цэнтральнай Расеі, зьбіраўся на нейкую там нараду. І усё гэта выхвалялася, што гэта на карысьць. І ніводнай лічбы на карысьць нейкіх станоўчых зьменаў у нас.

Я фактычна сядзеў ужо абураны тым, што больш чым 50% беларускай перадачы прысьвечана Расеі, і аніякай карысьці ад усіх гэтых кантактаў. А пасьля – ваенна-палітычны саюз, ваенная ідэалёгія й гэтак далей. І пасьля гэтага нечаканае пытаньне. Я пачаў гаварыць. Гэта не спадабалася, я быў абараваны. Вось уся гісторыя. Ніякага начальства побач студыі не было.

– <u>*Чым, на Вашую думку, былі выкліканыя такія паводзіны вядучага "Панарамы"?*</u>

**С.Ш.** – Думаю, што ён атрымаў заданьне з двух пунктаў. Першае, пацьвердзіць, што апазыцыя, і я асабіста, маем доступ да прамога эфіру, і другое – зьняважыць, каб адбіць ахвоту шукаць прамы эфір.

А сказаць я хацеў, што беларусы сёньня працуюць ня горш, чым іхныя заходнія суседзі, што талентам мы не пакрыўджаныя, што людзі сумленныя, працавітыя і шчырыя, і што заробкі нашых заходніх суседзяў у 5-8 разоў перавышаюць заробкі беларусаў. Куды дзяюцца тыя грошы, калі мы працуем нядрэнна, і калі рэжым сьцьвярджае рост валавага ўнутранага прадукту? Адказ адзін (рэжым ня можа ў такіх маштабах хлусіць): проста крадуць тыя, хто над намі.

Глядзіце: вырубаюцца беларускія лясы, адміністрацыя прэзыдэнта здае нешта ў арэнду ў Менску, атрымлівае грошы, якія ня йдуць у бюджэт. Народ проста абрабоўваюць. Трэба зьвярнуць на гэта ўвагу, трэба быць пільнымі.

Я хацеў сказаць, што гэта разумеюць і нашыя далёкія суседзі, бо ў часе паездкі быў у Сусьветным банку, МВФ, і каб Беларусь пацьвердзіла сваю сумленнасьць і падпарадкаванасьць закону, яна магла б атрымаць шалёныя крэдыты. Я проста гарантую, што гэта можа быць. Мы маглі б пайсьці хутчэй, чым палякі. Я перакананы ў гэтым. Народ засумаваў па добрай працы. І гэта можна зварухнуць. Ёсьць рынак, ёсьць патрэба ў гэтым.

Але ўрад кіруецца палітрукоўскімі лёзунгамі. І калі адзін чалавек лічыць, што ён разумнейшы за іншых, гэта так званы вонкавы розум. Паглядзіце, што сёньня робіцца ў 20 км ад Менска і далей, у якой сельскай больніцы; у гэты ж час будуюцца лядовыя палацы. Я хацеў на гэтае зьвярнуць увагу. І што дыялёг патрэбны для таго, каб знайсьці цывілізаванае выйсьце з гэтага агіднага становішча. Калі адны жыруюць і крадуць, а іншыя жывуць у бядноце.

– <u>*Пасьля ўсяго, што адбылося з Вамі на БТ, ці варта апазыцыі ўвогуле прымаць запрашэньні выступаць у дзяржаўных мас-мэдыях?*</u>

**С.Ш.** – Аб'яўляць байкот запрашэньням нельга – мы жылі і ў больш цяжкіх умовах, але трэба вывучыць вопыт. У наступны раз я ў 40 секунд укладу болей, у іх жа няма такіх шырокіх магчымасьцяў, каб кожнага падмануць. Яны ж фактычна прымітывы. Заўважце: перадачы ідуць кожны раз аднолькавым чынам. Трэба аблаяць і ўсё. А паколькі ніхто ня можа сказаць слова супраць гэтай лаянкі, то, як быццам, гэта і праўда. Трэба выкарыстоўваць кожную сэкунду.

Я падлічыў, што на палітычныя тэмы БТ гаворыць 20 гадзін на тыдзень. Я атрымаў адну хвіліну. Калі палічыць, гэта маленькая доля адсотку. Глядзіце, які гвалт узьняўся. Калі атрымаюць дэпутаты Вярхоўнага Савету, Багданкевіч, прадстаўнікі іншых партыяў, БНФ 30-40 сэкунд – праўду лёгка данесьці да людзей. І калі яна пойдзе па БТ, гэта паскорыць прымусовае цывілізаванае выйсьце з таго агіднага становішча, у якім мы знаходзімся. А выхад ёсьць.


Фота IREX

*<u>Ад Рэдакцыі</u>. Станіслаў Шушкевіч ня ёсьць, так бы мовіць, апазыцыйным аўтарытэтам для нашай газэты. Аднак мы лічым, што меркаваньне кіраўніка адной з дэмакратычных партыяў павінна быць пачутае, як, зрэшты, і любога чалавека, каму ёсьць што сказаць. Тым больш падчас так званага "грамадзка-палітычнага дыялёгу", які шырока рэкламуецца Лукашэнкам і падтрымліваецца сп.Вікам з АБСЭ. Што гэта за "дыялёг" – бачна з матэрыялаў гэтай старонкі..*

# Праграма тэлебачаньня з 5 па 11 чэрвеня

## •• Понедельник, 5 июня ••

Праграму тэлеканалаў мы друкуем на замову чытачоў. Гаспадары праграмы падаюць нам яе на расейскай. Рэдакцыя фізычна (па часе) не пасьпявае яе перакласьці. Просім разглядаць гэтыя старонкі як тэхнічна-службовы матэрыял, які ня мае дачыненьня да зьместу й характару нашай газэты.

**БТ**

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.05 Новости.
8.05 Резонанс.
8.53 Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс базовой школы.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...»
9.50 Здоровье.
10.15 «Сфера».
10.35 Теленавигатор.
11.10 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Судьба человека». Олег Чежегов.
12.25 Музыка без границ.
14.30 Док. экран.
15.10 Мультфильм.
15.30 «Что было? Что есть? Что будет?» Док. фильм.
16.05 «Тайна гексограммы». Телеочерк.
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.15 «А музыка звучит...»
17.45 «Дорога к Пушкину». 5-я серия.
18.10 «Тайны женского характер.
18.40 МСН.
19.20 Политические диалоги.
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «Одиссея команды Кухто».
22.25 Худ. фильм «Храни меня, мой талисман».
23.35 Третий тайм.
0.15 Криминальная хроника.
0.20 «Неизвестный Наполеон». Видеофильм.

**ОРТ**

13.30 Программа «Вместе».
14.00, 17.00, 23.35 Новости.
14.20 Мультсериал «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 Звездный час.
15.10 ...До шестнадцати и старше.
15.45 Худ. фильм «Большая перемена». 1-я серия.
17.30 «С легким паром».
18.00 Горьковская ссылка академика Сахарова. 1980 год.
18.45 «Нежный яд». Сериал
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Сериал «Секретные материалы».
21.55 Взгляд.
22.35 Концертная программа «Свет Юнга»
23.50 Сериал «Майк Хаммер».

**РОССИЯ**

15.45 Мультсериал.
16.00, 19.00, 22.00 Вести.
16.30 «Башня».
16.55 Гараж.
17.30 Премьера комедийного телесериала «Монахини в бегах».
18.25 Вино-шоу-кур.
19.40 «Дикий ангел».
20.40 Многосерийный худ. фильм «Остров фантазий» (США).
21.30 «Грязные танцы». Телесериал.
22.30 Премьера док. фильма «Разговор с Америкой».
23.25 «Футбол + ТВ».

**НТВ**

5.00 Сегодня утром.
7.55 Независимое расследование.
9.25 «Любовь и тайны Сансет Бич».
9.00, 11.00, 13.00,15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
11.30 Вчера в Итогах.
12.45 Куклы.
13.25 Детектив «Каменская. Убийца поневоле».
14.25 Герой дня без галстука.
15.35 Старый телевизор.
16.20 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.45 Футбольный клуб.
17.40 Криминал.
18.35 Герой дня.
18.55 «Живой Пушкин». Часть 1-я.
19.55 Совершенно секретно.
21.50 Сериал «Месть без предела».
22.50 Сегоднячко.
23.30 Сегодня в полночь.
23.55 Лига чемпионов по футболу подводит итоги.

**КУЛЬТУРА**

11.30 Новости культуры.
11.40, 13.40 Опера Дж.Верди «Аида». В постановке театра Ла Скала.
13.30 Новости культуры.
15.00 Новости.
15.10 Кино — детям. «Чародей. Страна великого дракона».
15.35 «Беседы о русской культуре».
16.15 Знакомые мелодии.

**НА КАНАЛЕ БТ**

13.10 Пунктир.
13.50 «Единственная запись в трудовой».
14.10 Видеодром.

**«МОГИЛЕВ-1»**

6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 «Астро-дайджест».
8.05 «Искушение».Телесериал.
8.50 «Мир дикой природы». Док. сериал.
9.20 «Танго и Кэш».Боевик.
16.30 «Сыщики — любители экстра-класса».Телесериал.
17.25 «Терра икс». Док. сериал.
17.55, 20.00 Праздник в Вашем доме.
19.00 Тяжелый день.
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.45 «Интриган». Худ. фильм.
22.05 Астро-дайджест.
22.10 «Три ненастных дня». Детектив.

**2-Й КАНАЛ**

7.00 «Энергетический завтрак».
8.10-12.00 ТВ-6.
15.00 Программа на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30, 21.30 Городские новости.
18.45 «Охотники за сокровищами».-Док.фильм.
19.10 Мультфильм.
19.30 «Поздравления».
20.15 «В гостях у бабки Агапки».
20.30 «Поздравления».
21.20 Высокая мода.
21.45 Мелодрама.»Опаленные страстью».
23.35 Спорт. программа.

## •• Вторник, 6 июня ••

**БТ**

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.45 Новости.
8.10 Политические диалоги.
8.40 «Заславль». Док. фильм.
8.53 Выпускной экзамен по математике за курс средней школы.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Очкарик». Короткометражный худ.фильм.
10.10 «На волне взаимопонимания».
11.10 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Одиссея команды Кухто». Телеигра.
12.25 Третий тайм.
13.10 А.Дударев. «Вечер». Спектакль. Часть 2-я.
14.30 Бездельник.
15.10 Мультфильмы.
16.05 «Дорога к Пушкину». 6-я серия, заключ.
16.30 Док.фильм.
17.10 Фильм-концерт.
17.30 МСН.
17.45 Док.сериал «Исторические расследования»(Россия).
18.25 «Москва — Минск».
19.15 Ток-шоу «Будни».
20.00 «Все мои дети». Телесериал.
20.45 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Комедия «Белые Росы».
23.15 Музыкальный салон.
23.55 Криминальная хроника.
24.00 «Неизвестный Наполеон». Видеофильм.

**ОРТ**

13.30 Программа «Вместе».
14.00, 17.00, 23.30 Новости.
14.20 «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 «Царь горы».
15.10 ...До шестнадцати и старше.
15.45 «Большая перемена». 2-я серия.
17.30 Смехопанорама.
18.00 Жди меня.
18.45 «Нежный яд». Заключ. серия.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Премьера. «Онегин».
22.55 «Жизнь замечательных людей».
23.45 Детектив «Перстень с русалкой». 1-я серия.

**РОССИЯ**

7.00, 8.00, 12.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 0.30 «Дежурная часть».
7.35 Семейные новости.
7.45 Доброе утро, Россия.
8.40 «Арена — спорт».
9.15 «Цыганка».
10.05 «Санта-Барбара».
11.00 Телеспецназ.
11.25 Москва — Минск.
12.30 «Город женщин».
13.05 «Черная жемчужина». Сериал.
13.55 «Богатые и знаменитые». Телесериал.
14.50 Диалоги о животных.
15.45 Мультсериал.
16.30 «Башня».
16.55 Сиреневый туман.
17.25 Сериал «Монахини в бегах».
18.25 «Устами младенца».
19.40 «Дикий ангел».
20.35 «Остров фантазий».
21.30 «Грязные танцы».
22.30 Док. фильм «Разговор с Америкой».
23.30 «Колизей».

**НТВ**

5.00 Сегодня утром.
7.55 Совершенно секретно.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.25 Худ. фильм «Седьмой спутник».
13.00 Сегодня.
13.30 Сериал «Месть без предела».
14.25 «Чистосердечное признание».
15.35 Старый телевизор.
16.20 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.45 Сериал «Она написала убийство».
17.40 Криминал.
18.40 Герой дня.
19.00 «Живой Пушкин». Часть 2-я.
19.55 «Глас народа».
21.50 Сериал «Месть без предела».
22.50 Сегоднячко.
23.30 Сегодня в полночь.
23.55 «Антропология».

**КУЛЬТУРА**

11.30 Новости культуры.
11.40 «Эльф, который не верил». Худ. фильм.
13.05 Играет камерный оркестр «Российская камерата».
13.30 Новости культуры.
13.45 «Сказка о царе Салтане».
14.15 «Кто там...»
14.45 Телеэнциклопедия.
15.00 Новости.
15.10 Кино — детям. «Чародей. Страна великого дракона».
15.35 Мультфильмы.
16.00 Док. фильм.

**НА КАНАЛЕ БТ**

14.10 Тяжелый день.

**«МОГИЛЕВ-1»**

6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 «Навіны раніцы».
8.05 «Искушение».
8.50 «Мир дикой природы». Док. сериал.
9.15 «Интриган». Худ. фильм.
16.30 «Сыщики — любители экстра-класса».Телесериал.
17.25 Мультфильм.
17.35 «Пушкин и Могилев».
17.55, 20.00 «Праздник в Вашем доме».
19.00 Бобруйский вариант.
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.45 «Только ты».Сериал.
21.35 Астро-дайджест.
21.40 «Отель»Шанхай»». Драма.

**2-Й КАНАЛ**

7.00 «Музыкальная программа».
8.10-12.00 ТВ-6.
15.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 Мультфильм.
18.40 «Пляж» Телесериал.
19.25 «Поздравления».
21.00 «Большое шоу животных». Док. фильм.
21.25 Высокая мода.
21.35 Фантастический триллер « Песочный человек».
23.05 Спорт. программа.

## •• Среда, 7 июня ••

**БТ**

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.00 Новости.
8.10 Слово Митрополита Филарета к празднику Вознесения Господня.
8.20 «Сегодня с вами...»
8.45 Док.фильм.
9.10 Потребительская корзина.
9.30 «Не улетай,землянин!» Худ. фильм.
10.05 Компьютерный полигон.
10.25 Зорная ростань.
11.15 «Все мои дети». Телесериал.
12.00 Ток-шоу «Будни».
12.45 Мультфильм.
13.15 Видимо-невидимо.
15.15 «Таинственный мир Алекс Мак-2».
15.40 «5 x 5».
16.10 Мультфильм.
16.25 «А музыка звучит...»
17.15 «Поет Ирина Бржевская».
17.30 «Макаенка,9».
18.00 Док.сериал «Исторические расследования».
18.40 МСН.
19.15 Лотерея «Толока».
19.25 «Наши песни».
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Мелодрама «Догма-3. Последняя песня Мифуне» (Дания).
23.30 Королевская охота.
0.10 Криминальная хроника.

**ОРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.40 Новости.
8.15 «Нежный яд». Заключ. серия.
9.15 Пока все дома.
9.50 Жди меня.
10.30 «Новые приключения Синдбада».
13.30 «Вместе».
14.20 «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 Зов джунглей.
15.10 ...До шестнадцати и старше.
15.45 «Большая перемена». 3-я серия.
17.30 Маски-шоу.
18.00 Человек и закон.
18.45 Комедия «Жених с того света».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Мэл Гибсон в мелодраме «Бегство миссис Соффел».
23.05 «Цивилизация».
23.55 Детектив «Перстень с русалкой». 2-я серия.

**РОССИЯ**

7.00, 8.00, 12.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 0.20 «Дежурная часть».
7.35 Семейные новости.
7.45 Доброе утро, Россия.
8.40 «Арена — спорт».
9.15 «Цыганка». Телесериал.
10.05 «Санта-Барбара».
11.00 Телеспецназ.
11.25 Мой XX век.
12.30 «Город женщин».
13.05 «Черная жемчужина». Сериал.
13.55 «Богатые и знаменитые». Сериал.
14.50 Моя семья.
15.45 Мультсериал.
16.30 «Башня».
16.55 «Круглая дата».
17.25 Сериал «Монахини в бегах».
18.25 Сам себе режиссер.
19.40 «Дикий ангел». Телесериал.
20.40 «Остров фантазий» (США).
21.30 «Грязные танцы». Телесериал.
22.30 Мужчина и женщина. Михаил Глузский.
23.20 «Кино + ТВ».

**НТВ**

5.00 Сегдня утром.
7.55 «Глас народа».
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.35 В нашу гавань заходили корабли.
12.35 Мультфильм.
12.40 «Среда».
13.30 Сериал «Месть без предела».
14.20 «Итого».
14.40 Фитиль.
15.35 Старый телевизор.
16.20 Интересное кино.
16.35 Впрок.
16.45 Сериал «Она написала убийство».
17.40 Криминал.
18.40 Герой дня.
19.05 «Живой Пушкин». Часть 3-я.
19.55 Суд идет.
21.50 Сериал «Месть без предела».
22.50 Сегоднячко.
23.30 Сегодня в полночь.
23.55 «Антропология».

**КУЛЬТУРА**

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 «Мадмуазель О». Худ. фильм.
13.45 Мультфильмы.
14.15 «15-й подъезд».
14.45 Телеэнциклопедия.
15.00 Новости.
15.10 «Чародей. Страна великого дракона».
15.35 «Беседы о русской культуре».

**НА КАНАЛЕ БТ**

14.25 Бобруйский вариант.
14.45 Мультфильм.

**«МОГИЛЕВ-1»**

6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 «Навіны раніцы».
8.05 «Искушение». (Заключ. серия).
9.00 «Мир дикой природы».
9.30 «Отель «Шанхай». Драма.
16.30 «Сыщики — любители экстра-класса».Сериал.
17.25 Мультфильм.
17.40 «Бобруйский машиностроительный завод им.Ленина».
17.55, 20.00 «Праздник в Вашем доме».
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.45 «Только ты».Телесериал.
21.35 Астро-дайджест.
21.40 Спорт планеты.

**2-Й КАНАЛ**

7.00 «Энергетический зав. трак».
8.10-12.00 ТВ-6.
15.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30, 21.30 Городские новости.
18.45 «Дикая природа»
19.10 Мультфильмы.
19.30, 20.30 «Поздравления».
20.15 «В гостях у бабки Агапки».
21.20 Высокая мода.
21.45 Боевик «Лучшее подразделение».
23.15 Спорт. программа.

## •• Четверг, 8 июня ••

**БТ**

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.25 Новости.
8.15 «Сегодня с вами...»
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 «Все мы родом из детства».
10.35 Мультфильм.
11.10 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Наши песни».
12.25 Наш край.
13.10 Земляки.
14.10 «Песню берите с собой».
15.10 «Таинственный мир Алекс Мак-2».
15.35 Мультфильм.
15.45 «Радость каждый день».
16.25 Телеочерк.
17.10 Арсенал.
17.35 Усадьба.
18.00 Сериал «Сити».
18.40 МСН.
19.15 «Премьер-парад».
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 М.Мастрояни в худ. фильме «Принцесса Канарская».
23.05 Футбол. Чемпионат РБ. «БАТЭ» — «Славия». 2-й тайм.
23.55 «Крок».
0.35 Криминальная хроника.

**ОРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.25 Новости.
8.15 Худ. фильм «Доченька». 1-я серия.
9.50 Человек и закон.
10.30 «Новые приключения Синдбада».
13.30 «Вместе».
14.20 «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 Программа «100%».
15.10 ...До шестнадцати и старше.
15.45 «Большая перемена». 4-я серия.
17.30 «Каламбур».
18.00 Процесс.
18.45 Остросюжетный фильм «Черный океан».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Худ. фильм «Любовь с привилегиями».
23.40 «Прорыв-2000». Гала-концерт.

**РОССИЯ**

7.00, 8.00, 12.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 1.05 «Дежурная часть».
7.35 Семейные новости.
7.45 Доброе утро, Россия.
8.40 «Арена — спорт».
9.15 «Цыганка». Телесериал.
10.05 «Санта-Барбара».
11.00 Телеспецназ.
11.25 Мой XX век.
12.30 «Город женщин».

